ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 78 (1612) | Аўторак, 3 кастрычніка 1961 года | Цана 4 кап.

## СЁННЯ Ў ГАЗЕЦЕ

◆ **ДА ВЫНІКАЎ АБМЕРКАВАННЯ ПРАБЛЕМ РАЗВІЦЦЯ ТЭАТРАЛЬНАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ.** ◆ ГАЛОЎНАЕ Ў ДЗІЦЯЧЫХ МУЗЫЧНЫХ ТВОРАХ — СУЧАСНАСЦЬ, ПРЫГАЖОСЦЬ, ІНДЫВІДУАЛЬНАСЦЬ МУЗЫЧНАЙ МОВЫ. ◆ **РЫСЫ НАШАГА ЖЫЦЦЯ:** САВЕЦКІ ЧАЛАВЕК ГАТОЎ У ЛЮБУЮ ХВІЛІНУ ДАПАМАГЧЫ ТАВАРЫШУ. ◆ **«АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ» — САПРАЎДНЫ ВЯНОК ФАРБАЎ І ГУКАЎ РОДНАГА КРАЮ.** ◆ ВЫСОКАКВАЛІФІКАВАНАЯ КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ ПАВІННЫ БЫЦЬ У АБЛАСНЫМ ДРУКУ. **РЭЦЭНЗІІ НА КНІГІ** ◆ **МАЛАВЯДОМЫ ТВОР ЖЫВАПІСЦА В. ВЕРАШЧАГІНА.** ◆ НОВАЯ ВЕРСІЯ ПРА АЎТАРСТВА ПАЭМЫ «ТАРАС НА ПАРНАСЕ».

# ВЯЛІКІЯ ЗАДАЧЫ, ВЫСОКІ АБАВЯЗАК

XXV з'езд Камуністычнай партыі Беларусі, які адбыўся гэтымі днямі, з'явіўся буйнай падзеяй у жыцці нашай рэспублікі. З'езд абмеркаваў і аднадушна адобрыў праекты Праграмы і Статута КПСС — дакументы гістарычнай важнасці. У рэзалюцыі з'езда аб праекце Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза гаворыцца: «Савецкі народ бачыць у праекце Праграмы КПСС выражэнне сваіх карэнных, жыццёвых інтарэсаў, запаветных спадзяванняў і надзей».

З'езд заслухаў і абмеркаваў справаздачны даклад аб рабоце Цэнтральнага Камітэта КПБ. У дакладзе і ў выступленнях дэлегатаў з'езда знайшлі глыбокае адлюстраванне працоўныя поспехі беларускага народа. Тэмпы росту прамысловай вытворчасці ў рэспубліцы значна перавышаюць намёткі кантрольных лічбаў сямігадовага плана. За два з палавінай года сямігодкі ўступіла ў строй 38 буйных прамысловых прадпрыемстваў і ажыццёўлена рэканструкцыя 246 прадпрыемстваў рэспублікі. Дзесяткі заводаў і фабрык працуюць сёння ўжо на ўзроўні, прадугледжаным на 1964 і 1965 гады. У вялікім руху калектываў і ўдарнікаў камуністычнай працы ўдзельнічаюць больш чым 300 тысяч рабочых, 12,5 тысячы змен, участкаў, цэхаў, брыгад. Працаўнікі вёскі настойліва змагаюцца за павелічэнне вытворчасці збожжа, павышэнне ўраджайнасці ўсіх сельскагаспадарчых культур, за павелічэнне пагалоўя жывёлы і вытворчасці мяса, малака, масла, яек.

Адзначаючы поспехі ў развіцці народнай гаспадаркі, з'езд, разам з тым, галоўную ўвагу ўдзяліў дзелавому абмеркаванню гаспадарчых і палітычных задач, якія стаяць перад рэспублікай і яе Камуністычнай партыяй, крытыцы недахопаў, што перашкаджаюць у рабоце, ускрыццю рэзерваў і нявыкарыстаных магчымасцей у дзейнасці прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў.

З'езд прадэманстраваў непахісную волю камуністаў і ўсіх працоўных рэспублікі самаадданa змагацца за ажыццяўленне задач, якія з гранічнай выразнасцю і навуковай абгрунтаванасцю вызначаны ў праекце Праграмы КПСС.

У святле гэтага велічнага дакумента яшчэ больш узрастае роля савецкай літаратуры і мастацтва ў жыцці нашага грамадства, узрастае ўвага да пытанняў культурнага будаўніцтва. Бо каб стварыць матэрыяльна-тэхнічную базу камунізма, патрэбна высокая свядомасць мас. Бо ад культурнага росту насельніцтва ў велізарнай ступені залежыць і прагрэс тэхнікі, і ўздым прадукцыйных сіл, і павышэнне грамадскай актыўнасці працоўных, і камуністычная перабудова быту. А выхоўваць высокую свядомасць, несці ў шырокія народныя масы культуру якраз і заклікаць савецкая літаратура, савецкае мастацтва, нашы культурна-асветныя ўстановы.

Як адзначалася ў справаздачным дакладзе таварыша К. Т. Мазурава на XXV з'ездзе КПБ, работнікі літаратуры і мастацтва рэспублікі дабіліся пэўных творчых поспехаў. Пісьменнікі стварылі рад новых твораў, якія адлюстроўваюць гераіку нашых дзён. неўміручы подзвіг народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Паспяхова развіваецца тэатральнае мастацтва, усё больш актыўна адлюстроўваючы на сцэне жыццё нашага сучасніка. Многа новых музычных твораў напісалі кампазітары рэспублікі. Ёсць дасягненні і ў беларускіх мастакоў. Рыхтуючыся да ўсесаюзнай выстаўкі, якая адкрываецца ў Маскве ў гонар XXII з'езда КПСС, многія мастакі напісалі яркія палотны.

І ўсё ж народ чакае ад сваіх песняроў большага. Мала ў нас яшчэ нараджаецца высокамастацкіх, яркіх твораў пра сучаснасць. Працоўны гераізм народа-будаўніка камунізма яшчэ не знаходзіць дастатковага мастацкага адлюстравання. І ў літаратуры, і ў жывапісе, і ў скульптуры, і ў музыцы нярэдка з'яўляюцца творы, адзначаныя нізкім прафесіянальным узроўнем. Павышэнне майстэрства — адна з важных і надзённых праблем нашай літаратуры і мастацтва.

Аналізуючы перад дэлегатамі з'езда КПБ сучасны стан беларускай літаратуры і мастацтва, таварыш К. Т. Мазураў адзначыў цэлы рад недахопаў у дзейнасці нашых творчых арганізацый. Рэпертуар некаторых тэатраў фарміруецца яшчэ недастаткова прадумана. Гледачам паказваюцца спектаклі, якія не вызначаюцца багаццем ідэйнага зместу, мала цікавыя па сродках мастацкага выяўлення. Слабыя ў ідэйных і мастацкіх адносінах творы трапляюць і ў канцэртныя праграмы эстрадных і музычных калектываў. Гэтыя калектывы і асобныя выканаўцы недастаткова працуюць над абнаўленнем свайго рэпертуару, асабліва за лік лепшых твораў, якія маюць баявую патрыятычную накіраванасць. Буйныя недахопы ў рабоце дапускае студыя «Беларусьфільм». Студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў працуе таксама нездавальняюча, павярхоўна і аднастайна паказвае жыццё рэспублікі.

Справядлівая і прынцыповая крытыка, якой былі падвергнуты на з'ездзе творчыя арганізацыі рэспублікі, дабратворна паспрыяе ліквідацыі недахопаў у іх рабоце, мабілізацыі сіл пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, дзеячоў сцэны, усіх работнікаў мастацтва на стварэнне новых яркіх твораў пра сённяшні дзень краіны.

Кіпучае стваральнае жыццё народа — вось невычэрпная крыніца тэм, вобразаў, натхнення для кожнага сапраўднага мастака.

Умацаванне сувязей з жыццём народа, праўдзівае і высокамастацкае адлюстраванне багацця і мнагастайнасці сацыялістычнай рэчаіснасці, натхнёны і яркі паказ новага, сапраўды камуністычнага, і выкрыццё ўсяго таго, што перашкаджае руху грамадства наперад, — вось галоўная лінія ў развіцці літаратуры і мастацтва, акрэсленая ў праекце Праграмы КПСС. Прасякнутыя аптымізмам і жыццесцвярджальнымі камуністычнымі ідэямі, савецкая літаратура і мастацтва заклікаць служыць крыніцай радасці і натхнення для мільёнаў людзей, выражаць іх волю, пачуцці і думкі, служыць сродкам іх ідэйнага ўзбагачэння і маральнага выхавання.

Цяпер, калі савецкі народ прыступіў да стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма, калі светлая камуністычная будучыня ўжо блізкая, дзеячы літаратуры і мастацтва, усе работнікі савецкай культуры павінны з асаблівай вастрынёй і адказнасцю дбаць пра свой вялікі і пачэсны ўклад у набліжэнне гэтай будучыні. Камуністычная партыя нястомна клапоціцца аб росквіце савецкай культуры, аб стварэнні ўсіх умоў для найбольш поўнага праяўлення асабістых здольнасцей кожнага чалавека, аб эстэтычным выхаванні працоўных, фарміраванні ў народзе высокіх мастацкіх густаў і культурных навыкаў.

У гэтай справе вялікае месца належыць і культурна-асветным установам.

У нашай рэспубліцы створана густая сетка гэтых устаноў: працуе 5 330 клубаў і сельскіх дамоў культуры, звыш 20 тысяч бібліятэк, 4 014 кінаўстановак. З кожным годам становіцца ўсё больш універсітэтаў культуры, народных тэатраў, універсітэтаў эстэтычнага выхавання і г. д. Усё гэта — вялікая сіла. Аднак не ўсюды яна выкарыстоўваецца як след. Многія клубныя ўстановы працуюць без ініцыятывы, у адрыве ад жыцця. Будаўніцтва і добраўпарадкаванне ўстаноў культуры, асабліва калгасных клубаў, у многіх вёсках і раёнах вядзецца дрэнна. У рэпертуары самадзейных калектываў шмат такога, што ніяк не садзейнічае ідэйнаму і культурнаму росту людзей. Залішне паблажліва ставяцца работнікі кінапракату да замежных фільмаў, дэманстрацыя якіх у кінатэатрах спрыяе працягванню ў наша асяроддзе буржуазнай ідэалогіі.

Як адзначалася на XXV з'ездзе КПБ, недахопы культурна-асветнай работы тлумачацца тым, што Міністэрства культуры БССР, Белсаўпроф, партыйныя і савецкія органы, камсамол не ўдзяляюць належнай увагі рабоце культасветустаноў, слаба цікавяцца зместам клубнай работы, дрэнна арганізоўваюць падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў культасветработнікаў, асабліва кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці. З'езд падкрэсліў неабходнасць павысіць ролю ўстаноў культуры ў камуністычным выхаванні працоўных і ўзняць ідэйны ўзровень іх работы, дабівацца, каб на кожным прадпрыемстве, у кожным калгасе і саўгасе былі створаны неабходныя ўмовы для культурнага адпачынку працоўных.

Праект Праграмы КПСС прадугледжвае далейшы магутны ўздым матэрыяльнай базы культуры: усямернае развіццё кнігавыдавецкай справы і друку; павелічэнне сеткі бібліятэк, лекцыйных і чытальных залаў, тэатраў, клубаў, дамоў культуры, кінатэатраў; завяршэнне радыёфікацыі краіны, будаўніцтва тэлевізійных цэнтраў, якія ахопліваюць усе прамысловыя і сельскагаспадарчыя раёны; шырокае развіццё народных універсітэтаў і іншых самадзейных культурных арганізацый; стварэнне шырокай сеткі агульнадаступных навуковых і тэхнічных лабараторый, мастацкіх майстэрань і кінастудый для работы ўсіх, хто мае імкненне і здольнасці. Культурнае развіццё ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камуністычнага грамадства з'явіцца завяршаючым этапам вялікай культурнай рэвалюцыі.

Культура камунізма ўбірае ў сябе і развівае ўсё лепшае, што было створана сусветнай культурай, увасобіць у сабе ўсю мнагастайнасць і багацце духоўнага жыцця грамадства, высокую ідэйнасць і гуманізм новага свету.

Ствараць культуру камунізма — якое гэта вялікае шчасце!

Дзеячы літаратуры і мастацтва Беларусі, усе работнікі культуры ясна ўсведамляюць свой высокі абавязак, свае вялікія задачы. Верныя сцягу камунізма, яны яшчэ з большай старраннасцю будуць працаваць над новымі творамі, унясуць свой дастойны ўклад у выкананне рашэнняў XXV з'езда КПБ, у дастойную сустрэчу XXII з'езда КПСС.



## Хараство душы

**Прыгожы, адухоўлены твар... Пяшчотныя, ласкавыя дзявочыя рукі ўпэўнена, па-майстэрску кіруюць машынай...**

**Гэта — Алена Лазарэнка, ткачыха Мінскага тонкасуконнага камбіната, дэлегатка XXII з'езда КПСС.**

**Калі мы пацікавіліся ў парткоме, чым яна заслужыла такую вялікую павагу сваіх таварышаў, нам, не задумваючыся, адказалі: выключнай працавітасцю, сціпласцю, майстэрствам.**

**Алена першая на камбінаце пачала працаваць на трох станках. Ударніца камуністычнай працы, дэпутат Мінскага гарсавета, член партыйнага бюро камбіната, — яна ўжо цяпер дасягнула прадукцыйнасці працы, якая запланавана на апошні год сямігодкі.**

**Гэта цяпер, а раней? Мы пытаемся ў Алены пра яе першыя працоўныя крокі.**

**— Сёлета, — гаворыць яна, — споўніцца дзесяць год з таго дня, калі я шаснаццацігадовай дзяўчынай упершыню прыйшла на камбінат. Аб вытворчасці не мела ніякага ўяўлення. Мяне аглушаў гул станкоў, я адчувала сябе маленькай, разгубленай. А калі паглядзела на работу ткачыхі Ніны Карпікавай, падумала — ніколі не навучуся так працаваць. Па начах нават плакала.**

**— А потым?**

**— Потым працавала вучаніцай. З дапамогай Ніны Карпікавай і ўсяго калектыву паступова авалодвала складанай прафесіяй. З'явілася ўпэўненасць. Праз два-тры месяцы пачала працаваць самастойна. Я адразу адчула, што на адной упэўненасці, без ведаў, далёка не пойдзеш. Паступіла ў вячэрнюю школу, тут жа, пры камбінаце. Гэтае прадпрыемства стала маім родным домам, сапраўднай школай працы і жыцця. Тут я ўступіла ў камсамол, тут мяне прынялі ў кандыдаты, а потым у члены маёй роднай партыі.**

**Брыгада, у якой працавала Лазарэнка, з цягам часу заваявала званне калектыву камуністычнай працы. Па прыкладу Валянціны Гаганавай Лазарэнка перайшла ў адстаючую брыгаду.**

**— Мы многа думалі над тым, як павялічыць прадукцыйнасць працы, шукалі рэзервы. І знайшлі рашэнне. Па прапанове нашага брыгадзіра Віктара Кажурына вырашылі аб'яднаць чатыры калектывы адной комплекснай брыгадай. Цяпер мы ўсе разам працуем значна лепш.**

**Мы гутарым у маленькім пакойчыку начальніка цэха. Праз тонкія фанерныя сценкі выразна чуваць гул ткацкіх станкоў. Адзін з рабочых пакінуў дзверы адчыненымі. Калі мы памкнуліся зачыніць іх, маўляў, вельмі шумна, Алена сказала:**

**— Ну, што вы, які гэта шум. Гэта ж — песня.**

**Яе твар асвятліла ўсмешка.**

**— Мая любімая мелодыя. Мне заўсёды здаецца, што нечага не хапае, калі не чую яе.**

**— Якія мае думкі аб праекце Праграмы партыі? Самыя ўзнёслыя, самыя радасныя. Калі мы з сяброўкамі абмяркоўваем гэты велічны дакумент, у нас ствараецца ўражанне, быццам мы абмяркоўваем сваё ўласнае жыццё. І гэта сапраўды так. Я добра памятаю словы Праграмы: «Перамога камунізма залежыць ад людзей, і камунізм будуецца для людзей. Кожны савецкі чалавек сваёй працай набліжае перамогу камунізма». Сваёй працай!**

**— Скажыце, Алена, а які вы асабіста рыхтуеце працоўны падарунак XXII з'езду партыі?**

**— Маё абавязацельства — штодзённа выконваць зменнае заданне на 105 працэнтаў, сэканоміць 10 кілаграмаў пражы і даць звыш плана 400 метраў гатовага сураўя.**

**Мінская абласная партыйная канферэнцыя выбрала Алену Лазарэнка дэлегатам на XXII з'езд КПСС.**

**Як яна гэта ўспрыняла, што адчула? Гэта, бадай, самае хвалюючае для яе пытанне.**

**Дзяўчына доўга маўчыць. Погляд яе карых, крыху раскосых вачэй накіроўваецца некуды ўдалячынь.**

**— Мне вельмі цяжка знайсці адпаведныя словы, — усхвалявана гаворыць яна, — каб выказаць сваё шчасце, гонар, радасць. Найвялікшае давер'е, якое мне аказалі партыя, таварышы, я імкнуся апраўдаць кожным днём сваёй працы.**

**Лепшых, дастойных прадстаўнікоў пасылаюць камуністы на свой XXII з'езд. І сярод іх Алена Лазарэнка — наша сучасніца, чалавек прыгожай душы. Натхнёная праца такіх людзей — надзейная зарука нашай светлай будучыні.**

## ВЫСТАЎКА «СЯМІГОДКА Ў ДЗЕЯННІ»

У Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі адкрылася выстаўка «Сямігодка ў дзеянні», прысвечаная XXII з'езду КПСС. У раздзеле «Прамысловасць» дэманструюцца ўзоры вырабаў, вытворчасць якіх асвоена за гады сямігодкі на шматлікіх прадпрыемствах Магілёўшчыны. Тут розныя машыны і механізмы, будаўнічыя матэрыялы, рэчы шырокага ўжытку. Прыцягвае ўвагу прыгожы гарнітур для кватэр з двух пакояў. Уся мэбля сучасная, малагабарытная, вельмі зручная. Гэты гарнітур распрацаваны на Бабруйскай мэблевай фабрыцы імя Халтурына і асвоены калектывам прадпрыемства датэрмінова, да XXII з'езда КПСС. Асобныя стэнды прысвечаны барацьбе за тэхнічны прагрэс, руху за камуністычную працу, які набыў у вобласці шырокі размах, творчай дзейнасці рацыяналізатараў і вынаходнікаў.

Многа экспанатаў багатых дароў восені выстаўлена на стэндах, дзе дэманструюцца поспехі працаўнікоў сельскай гаспадаркі.

Цікавы аддзел «Горад Магілёў у сямігодцы». На выстаўцы дэманструюцца макеты новых вуліц, жылых ансамбляў, новага мікраёна, забудова якога ўжо разгарнулася.

Асобныя стэнды прысвечаны дасягненням у галіне народнай адукацыі, аховы здароўя, культуры.

## У СЕКЦЫІ КРЫТЫКІ СП БССР

Секцыя крытыкі СП БССР наладзіла абмеркаванне літаратурна-крытычных матэрыялаў у рэспубліканскіх маладзёжных газетах, у абласным друку і ў часопісе «Беларусь». З дакладамі выступілі Д. Бугаеў, В. Каваленка, М. Стральцоў, Р. Шкраба.

У абмеркаванні пытанняў крытыкі і бібліяграфіі ў перыядычным друку прынялі ўдзел загадчыкі аддзелаў культуры абласных газет тт. Галагуцкі (Гродна), Ісачанка (Магілёў), Паўлоўскі (Брэст) і інш.

## Юбілей Віталія Вольскага

30 верасня ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР адбыўся вечар, прысвечаны творчасці беларускага драматурга, празаіка і літаратуразнаўцы Віталія Вольскага ў сувязі з 60-годдзем з дня яго нараджэння.

Уступнае слова на вечары сказаў старшыня праўлення СП Беларусі Пятрусь Броўка.

З дакладам пра жыццё і творчасць Віталія Вольскага выступіў Алесь Кучар.

Юбіляра горача віталі прадстаўнікі грамадскасці рэспублікі, журналісты, пісьменнікі.

Адбыўся канцэрт Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы.

## ГЭТА—КІТАЙ

2 кастрычніка ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі адкрылася выстаўка мастацкай фатаграфіі Кітайскай Народнай Рэспублікі. Выстаўку адкрыў старшыня беларускага аддзялення Таварыства кітайска-савецкай дружбы тав. Макараў. Ён гаварыў пра непарушную дружбу савецкага і кітайскага народаў, якія поплеч ідуць да вялікай мэты, пра гіганцкія пераўтварэнні, здзейсненыя кітайскім народам пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі Кітая.

112 фатаграфій выстаўкі гавораць пра гэта. Заводы, шахты, трактары на палях, гурткі па ліквідацыі непісьменнасці, гіганцкія плаціны на рэках... Неабсяжныя палі і дзікія горы, старадаўнія храмы і вуліцы сучасных гарадоў, уборка рысу і выплаўка сталі... Гэта—Кітай. Гэта—рысы краіны, дзе скінута ярмо каланіяльнага рабства і будуецца новае жыццё.

А якія здзіўляючыя па майстэрству каляровыя здымкі!

## ВЕЧАР ДРУЖБЫ

Днямі ў памяшканні Тэатра імя Я. Купалы адбыўся вечар сучаснай польскай паэзіі, арганізаваны Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі і Саюзам пісьменнікаў БССР. Вечар адкрыў паэт Максім Танк. З дакладам аб сучаснай польскай паэзіі выступіў Пятро Глебка. Цёпла сустрэлі прысутныя выступленне сакратара Таварыства польска-савецкай дружбы Тадэуша Ксенжака. М. Лужанін, Я. Семяжон, П. Пестрак, А. Астрэйка і М. Аўрамчык прачыталі свае пераклады вершаў сучасных польскіх паэтаў. У заключэнне вечара быў паказан спектакль «Лявоніха на арбіце».

Самадзейнасць? Так. Але НА ПРАФЕСІЯНАЛЬНЫМ УЗРОЎНІ

# МАГУТНАЙ ПЛЫНІ — ШЫРОКАЕ РЭЧЫШЧА

### ДА ВЫНІКАЎ АБМЕРКАВАННЯ ПРАБЛЕМ ТЭАТРАЛЬНАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ

Абмеркаванне праблем развіцця драматычнай самадзейнасці на старонках нашай газеты выклікала даволі шырокі абмен думкамі. У ім прынялі ўдзел мастацкія кіраўнікі, рэжысёры, артысты народных тэатраў, тэатральныя крытыкі, драматургі, мастацтвазнаўцы і інш.

Цікавасць мастацкай грамадскасці да гэтага абмеркавання зусім зразумелая. За два з лішнім гады свайго існавання народныя тэатры заваявалі прызнанне і шырокую любоў соцень тысяч гледачоў.

Спектаклі народных тэатраў дайшлі да сэрца гледачоў не толькі таму, што яны пастаўлены на больш высокім прафесіянальным узроўні, чым у звычайных драматычных гуртках. Народ ацаніў і высокі грамадзянскі энтузіязм самадзейных артыстаў, рэжысёраў, мастакоў, якія падзяляюць сваё жыццё паміж працай і творчасцю.

Артыст народнага тэатра — гэта ў першую чаргу калгаснік, рабочы, сельскі механізатар, настаўнік, урач, заатэхнік, а пасля ўжо артыст. Большую частку часу ён аддае сваёй асноўнай працы, і толькі вольны ад вытворчасці і сям'і час ён прысвячае мастацкай творчасці. І трэба быць максімальна арганізаваным, трэба бязмежна любіць мастацтва, каб зусім бескарысліва аддаваць яму частку свайго жыцця, свае сілы.

Народныя тэатры — адна з прыкмет камуністычнага Заўтра, калі творчасць будзе арганічнай патрэбай кожнага чалавека. І гэта заўтрашняе ўжо нараджаецца сёння, нараджаецца, бы тая ручаіна з горнай вяршыні, якая пасля перарастае ў паток, а паток — у шырокую водную плынь ракі.

У 1962 годзе ў нашай рэспубліцы плануецца 34 народныя тэатры, і колькасць іх будзе павялічвацца з кожным годам. Неўзабаве народныя тэатры будуць у кожным раённым цэнтры, у кожным гарадскім пасёлку і буйных калгасных цэнтрах.

Але народзяцца яны не самі па сабе. Спатрэбяцца сур'ёзныя арганізацыйныя і творчыя намаганні, каб гэтая плынь выйшла на шырокі прастор. Гэта сцвердзілі і шматлікія выступленні на старонках нашай газеты. У ходзе абмеркавання высветлілася, што сённяшняе становішча народных тэатраў рэспублікі патрабуе актыўнай дапамогі ўсёй грамадскасці, без якой далейшы іх рост будзе сур'ёзна адставаць. Неабходнасць такой дапамогі адчуваецца ва ўсіх галінах дзейнасці народных тэатраў.

Можна лёгка ўявіць: год праз колькі нашы раённыя цэнтры і рабочыя пасёлкі стануць яшчэ прыгажэйшымі і ўпрыгожаць іх перш-наперш будынкі, якіх сёння яшчэ няма там.

У асобным прыгожым будынку будзе народны тэатр, поруч з ім размесціцца будынак кінатэатра, а непадалёк — Дом культуры для масавай самадзейнасці.

Так будзе, абавязкова будзе, а пакуль і народны тэатр, і кіно, і масавая самадзейнасць месцяцца ў адным і тым жа раённым Доме культуры. І ў гэтых умовах вельмі ўскладняецца работа народных тэатраў. Ускладняецца яна яшчэ і тым, што не ўсе кіраўнікі РДК лічаць народныя тэатры сваёй роднай і кроўнай справай. Для іх важней «пракруціць» лішні кінасеанс, пад гучнай рэкламай «вечара адпачынку» арганізаваць платныя танцы, чым паказаць спектакль. Ад кіно і танцаў яны маюць «жывую капейку», а спектакль амаль нічога не дае для фінансавага плана РДК. І колькі часу, сілы і энергіі даводзіцца траціць кіраўнікам народных тэатраў, каб праводзіць рэпетыцыі і паказваць свае спектаклі на сцэне РДК.

Загадчыкам дамоў культуры, вядома, цяжка спланаваць работу клуба так, каб задаволіць усіх, але ж нельга 25—28 дзён у месяц «круціць» толькі адно кіно, як гэта правільна зазначае М. Колас у артыкуле «Гэтыя пытанні не церпяць адкладу».

Адсутнасць сваёй сталай базы, дзе можна было б планава праводзіць рэпетыцыі, творчыя заняткі, рыхтаваць і паказваць спектаклі — адна з найбольшых цяжкасцей у сённяшнім жыцці народных тэатраў. Пераадолець яе без дапамогі мясцовых партыйных і грамадскіх арганізацый бадай немагчыма. Там, дзе ёсць народныя тэатры, работу РДК трэба ўзяць пад грамадскі кантроль, каб усе віды мастацкай самадзейнасці і ў першую чаргу — народныя тэатры мелі хоць элементарна неабходныя ўмовы для нармальнай працы. У гэтым мусяць быць зацікаўлены і савет РДК і кіраўніцтва раённага аддзела культуры, якое часам таксама патурае кінапракатным захапленням загадчыкаў РДК.

У гэтай сувязі заслугоўвае сур'ёзнай увагі ідэя «адкрытых дзвярэй», што ўзнікла ў ходзе абмеркавання. Некаторыя таварышы прапануюць адмовіцца ад платных спектакляў у народных тэатрах, а сродкі, неабходныя для нармальнай працы тэатра, чэрпаць з адлічэнняў ад культфондаў прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў. Думаецца, што гэтая прапанова мае ў сабе здаровае зерне. Тым больш, што вялікія сумы культфондаў часта выдаткуюцца не па свайму прызначэнню.

Народныя тэатры ўзніклі ў выніку высокіх культурных запатрабаванняў народа. Чаму ж яны мусяць быць у горшым становішчы, чым іншыя культурныя ўстановы, якім вызначаецца матэрыяльная дапамога?

І вось, калі б народныя тэатры існавалі на сродкі культфондаў, то арганізацыі, якім падначалены клубы і дамы культуры, былі б заклапочаны, каб яны больш нармальна працавалі і часцей выступалі са сваімі спектаклямі. Пры такім жа становішчы, калі народныя тэатры існуюць самі па сабе, прадпрыемствы, раённыя і абласныя аддзелы культуры не нясуць матэрыяльнай адказнасці за народныя тэатры, бо любому раённаму аддзелу культуры куды большая выгада «пракруціць» лішні сеанс, чым паказаць спектакль.

Гэту камерцыйную практыку, між іншым, трэба рашуча ламаць. Колькі ёсць нараканняў з боку прафесіянальных тэатраў і канцэртных арганізацый рэспублікі, што многія кіраўнікі РДК з ведама начальнікаў раённых аддзелаў культуры не даюць сцэну для выязнога спектакля ці філарманічнага канцэрта толькі таму, што спектакль і канцэрт амаль нічога не даюць для фінансавага плана.

Ці не шмат ужо развялося ў нашых раённых установах культуры кіраўнікоў, якія за лішні рубель гатовы заглушыць усё, што не звязана з кіно і танцамі? Міністэрству культуры БССР, відаць, даўно пара навесці парадак у карыстанні памяшканнямі РДК і тым самым стварыць мясцовай самадзейнасці, а ў першую чаргу—народным тэатрам, большыя магчымасці для нармальнай працы.

Нармальнай дзейнасці народных тэатраў перашкаджаюць яшчэ іншыя прычыны. Многія кіраўнікі прадпрыемстваў і устаноў не адпускаюць сваіх рабочых і служачых — удзельнікаў самадзейнасці на рэпетыцыі і спектаклі, тым больш на выязныя. Даходзіць да таго, што ў асобных выпадках даводзіцца звяртацца за дапамогай да раённых і гарадскіх партыйных камітэтаў.

Такое становішча трэба прызнаць абсалютна ненармальным і пажадана, каб Белсаўпроф як мага хутчэй і першым прыйшоў на дапамогу ў гэтай справе, бо ён мае поўную магчымасць перавесці ўдзельнікаў самадзейнасці з вячэрніх і начных змен на дзённыя, уладкаваць з адміністрацыяй пытанні з выязнымі спектаклямі, канцэртамі і інш.

Сказаць праўду, дык тут многа вінаваты і самі народныя тэатры. Яны не маюць яшчэ ярка акрэсленага грамадскага аблічча, не абраслі грамадскім актывам.

Каб кожны народны тэатр меў мастацкі савет з прадстаўнікоў партыйных, грамадскіх, камсамольскіх арганізацый і прамысловых прадпрыемстваў,— у яго была б шырокая апора і ўсебаковая падтрымка. Відаць, гэтага яшчэ няма і справа даходзіць часам да анекдатычных выпадкаў, калі некаторыя мясцовыя кіраўнікі не ведаюць, што гэта такое — народны тэатр. А не ведаюць, відаць таму, што сам тэатр яшчэ не «заявіў» аб сабе, не глыбока пранік сваімі карэннямі ў грамадскае жыццё. Народным тэатрам трэба часцей сустракацца са сваімі гледачамі, раіцца з імі, цікавіцца іх думкамі і патрабаваннямі да мастацтва, абмяркоўваць свае спектаклі, рэпертуарныя планы, акцёрскія работы, не баючыся пры тым шырокай грамадскай крытыкі, і тады тэатр стане не толькі творчай, а і грамадскай з'явай.

І ўнутры кожнага калектыву, з кожнага самадзейнага артыста трэба выхоўваць не толькі таленавітага выканаўцу, а і грамадска-культурнага дзеяча.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

